www.nv-online.info – электронны дадатак да друкаванай версіі газеты «Народная Воля».

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**№ 60 (4312)**

31 ліпеня 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*



ТОЧКА ЗРЕНИЯ

Александр ФЕДУТА

## Цена халявы

Посол Российской Федерации в Минске Александр Суриков, добывая последние дни своей миссии (все уже знают, что преемник ему подыскан, и пока лишь белорусскому руководству руки выламывают, чтобы согласилось с предложенной кандидатурой), решил напоследок – вероятно – оставить по себе добрую память. Посоветовал, что нужно сделать, чтобы белорусы действительно получали газ по цене Смоленской области. Цитируем:

*«Вот говорят в Минске – дайте цены Смоленской области на газ. Если местные сети белорусские, которые занимаются дальнейшей перепродажей газа после получения от подразделения «Газпрома», станут частью -- арендной или какой-то частью «Газпрома» (не обязательно их покупать), то тогда это цена сквозная, газпромовская – без всяких изъятий».*

Что-то такое знает Суриков о белорусах, что позволяет ему сделать вывод: покобенятся, повыкаблучиваются – да и согласятся. Ибо – халява, сэр! Представляете, как заживем – ууууx!

А я вот вспоминаю другое.

Ведь именно для того, чтобы цены на газ в Беларуси были как в Смоленской области, уступили российской государственной газовой монополии сначала саму трубу «Белтрансгаза», а затем и землю передали на российских условиях. И в обоих случаях речь шла именно об этой самой халяве – чтобы одним махом – и ууууx!

Ну – и где она, халява-то? Дважды ведь уже передавали требуемое, а оно все жрет и жрет, и еще требует. Получается, есть халява, но все не нам.

А что было у нас с нефтеперерабатывающими заводами? Помните, как мозырский НПЗ передавали «Славнефти»? Говорили, что дешевым бензином зальемся. Выясняется, что есть дешевый бензин, есть – только белорусам он все более не по карману. Может, им еще и новополоцкий передать – чтобы уж просто потонуть в халявном горючем?

Мы передавали под чужой контроль свое таможенное и экономическое пространство. Мы бурно радовались тому, как исчезают границы. Мы жертвовали своей национальной культурой, историей, языком – ради чего? Ради халявы. Мол, не вздумайте обидеть великого и могучего соседа – халявы не будет! Какой, блин, западный вектор – а как же халява?! Мы глотали оскорбительные высказывания в свой адрес мелких сошек и крупных шавок: цена на газ оказывалась превыше всего. И за это время пресловутая белорусская дешевизна таяла, ассортимент (в том числе, например, лекарственный) становился все более убогим, а сами мы – все более нищими.

Мы – это кто? В данном случае мы – это власть. Да, и она в том числе. Посмотришь на суммы, изъятые у наших крупнейших коррупционеров… Ну, прямо скажем, даже не министр экономики России Улюкаев. Что уж говорить о наших главврачах и директорах, арестовываемых за две тысячи долларов: бедняги, на что польстились…

Но и мы, рядовые избиратели, разумеется, тоже.

Может, а-ну их, с этими их трубами…

А вот уж нет!

В селе Негорелое Дзержинского района Минской области прокладывали газовую трубу. Одну, через улицу. А вот ответвления к домам предлагали финасировать проживавшим в домах людям: мол, будет вам дешевое и надежное отопление, все не дрова зимой таскать. Разумеется, многие согласились – в том числе и моя теща. Вытащила свои сбережения и оплатила ими сколько-то там выпало на ее долю метров трубы. Но труба эта стала вовсе не ее собственностью, а государственной. Как я понимаю, именно об этой трубе и совершенно аналогичных трубах идет сейчас речь. Ибо более крупные трубы, ведущие к большим городам и поселкам, уже и без того – «белтрансгазовские», то есть – российские.

Стоп, ребята, а вы спросили у тех, на чьи деньги – не тогда, в мифическом уже Советском Союзе, а именно сейчас, за последние четверть века – и не на налоги, а на реальные живые деньги – эта труба прокладывалась? И почему областные структуры, которые являются сегодня хозяевами этих труб (как я понимаю), ставили эти вот небольшие участки труб на свой баланс, а те, кто расставались ради них со своими кровными деньгами, не становились, например, акционерами или собственность не передавалась им в другом виде?

Получается, у граждан забрали деньги, а теперь тем, что на эти деньги создано, распоряжается государство. И посол Суриков требует от государства все это передать «Газпрому». Чтобы уж окончательно и бесповоротно – ууууx!

Может быть, хватит халявы? Она слишком дорого обходится всем нам. То есть власти, наверное, дешевле, но все равно – как-то дорого.



## АДКРЫТЫ ЛІСТ Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнку



Іншай магчымасці, як звярнуцца да Вас, Аляксандр Рыгоравіч, праз газету ў мяне няма. Шчыра скажу: доўга вагалася: ці магу я гэта зрабіць, ці не выкарыстоўваю свае магчымасці, але чым больш праходзіць часу, сітуацыя становіцца тупіковай, і тэма гэтай сітуацыі выходзіць за межы Беларусі.

Вядома ж, я карыстаюся правам нашага з Вамі, Аляксандр Рыгоравіч, знаёмства і даўнімі добрымі жыццёвымі стасункамі і адносінамі. Таму, калі ласка, выслухайце мяне.

Размова пойдзе пра ўрочышча Курапаты. Я не буду распавядаць пра тое, што значаць Курапаты для беларусаў. Вы добра ўсё ведаеце. Тое, што людзі выйшлі бараніць крыжы памяці нашых бацькоў і прадзедаў ад шоу-бізнесу, ад рэстаранна-забаўляльнага мерапрыемства – гэта гонар для краіны. Але ўсё больш і больш людзей уключаюцца ў гэта процістаянне. Кола ўдзельнікаў пашыраецца, людзі хочуць ведаць праўду і гэтую старонку нашай гісторыі не вырваць. Таму пра Курапаты ствараюцца дакументальныя і мастацкія фільмы, у тэатрах ставяцца спектаклі, ладзяцца вечарыны ўспамінаў людзей, якія прайшлі лагеры смерці ў тыя жахлівыя сталінскія часы. Вы б бачылі вочы маладзёнаў, з якой цікавасцю, з якой непадробнай увагай слухаюць яны расповеды старых людзей, якія ў тыя часы самі былі дзецьмі і прайшлі ГУЛАГі, а то і нарадзіліся там.

І калі мы дазволім застацца ва ўрочышчы гэтай самай харчавальні, не даруюць нам гэтага нашы ўнукі і праўнукі, сорам ляжа на плечы беларусаў.

Аляксандр Рыгоравіч, я ўпэўнена, толькі Вы можаце выправіць гэты хіб, які склаўся па чыёйсьці чыноўніцкай памылцы. І не трэба нічога ламаць: можна змяніць выгляд гэтага недарэчнага збудавання, стварыць капліцу для малення і мемарыял памяці закатаваных ахвяр. Ёсць жа ў нас царква памяці чарнобыльцам, капліца памяці афганцам, трасцянецкі мемарыял загінуўшым у фашысцкай навале.

Не адмаўляйцеся, калі ласка, пастаўце станоўчую кропку ў гэтай праблеме і людзі будуць Вам удзячны!

З надзеяй на добрыя весткі –
**Зінаіда БАНДАРЭНКА, народная артыстка Беларусі.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## «У якасці агента я супрацоўнічала з КДБ...»

*Учора суд Савецкага раёна Мінска пачаў разгляд крымінальнай справы лідараў незалежнага прафсаюза РЭП.*

Згодна са звесткамі следства, старшыня прафсаюза **Генадзь Фядыніч** і галоўны бухгалтар **Ігар Комлік** незаконна адкрылі рахунак у банку Літвы, куды ў 2011 годзе ад нерэзідэнтаў Беларусі паступілі грашовыя сродкі ў замежнай валюце. Валюту затым, маўляў, здымалі, перавозілі праз мяжу і перадавалі ў Беларусі Комліку і Фядынічу.

Па інфармацыі юрыста прафсаюза **Юрыя Белякова**, гутарка ідзе пра рахунак у адным з літоўскіх банкаў, і гэты рахунак быў закрыты яшчэ ў 2011 годзе. У тым жа годзе, дарэчы, чатыры з паловай гады па аналагічным абвінавачанні атрымаў праваабаронца **Алесь Бяляцкі.**

Суд праходзіў у невялікай судовай зале на 50 чалавек, таму амаль палова жадаючых не трапіла на працэс. Фядыніч паведаміў, што ягонае хадайніцтва аб прадастаўленні вялікай залы было незадаволена.

Падтрымаць прафсаюзных актывістаў прыйшлі палітыкі **Станіслаў Шушкевіч, Анатоль Лябедзька, Віталь Рымашэўскі** і іншыя, а Фядыніч і Комлік з'явіліся на судзе ў вышыванках.

Пракурор зачытаў абвінавачанне, але прафсаюзныя актывісты не прызналі сябе вінаватымі, затым пачаўся допыт сведкаў. Цікавым аказалася выступленне сакратара прафсаюза РЭП **Юліі Юхнавец**, якая працавала ў арганізацыі з 2014-га па 2016 год і прызналася ў судзе, што была агентам КДБ.

*“З 2015 года супрацоўнічала з КДБ у якасці агента, атрымлівала за гэта грошы”*, – расказала 22-гадовая дзяўчына.

Юлія Юхнавец таксама заявіла, што яна некалькі разоў выязджала ў Вільнюс, адкуль прывозіла пэўныя сумы валюты.

Дарэчы, сведак вельмі шмат, таму на гэтым тыдні працэс наўрад ці завершыцца.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**



СТАЛА ВЯДОМА

## Прадаецца дом Уладзіміра Караткевіча

*У Оршы выстаўлены на продаж драўляны дом, у якім Уладзімір Караткевіч правёў свае дзіцячыя і юначыя гады.*




Ён знаходзіцца ў цэнтры горада, цяперашнія гаспадары гатовы прадаць яго амаль за 34.000 рублёў. Агульная плошча дома 44,5 метра, пры ім маецца зямельны ўчастак 13 сотак. Апошнія тры гады дом стаяў пустым, раней у ім жыў Юрый Барабаш – муж пляменніцы пісьменніка. Пасля яго смерці сядзіба перайшла да нашчадкаў, якія жывуць у Адэсе.

Дом класіка беларускай літаратуры збіраюцца выкупіць актывісты аршанскага грамадскага аб'яднання “Звяз”, каб зрабіць яго пляцоўкай для культурных мерапрыемстваў. Для збору сродкаў “Звяз” неўзабаве плануе запусціць краўдфандынгавую кампанію.

*“Сябры, мы пачынаем самую важную справу за ўвесь час існавання арганізацыі. І тут патрэбна вялікая дапамога ўсіх людзей, для якіх Орша і Караткевіч – не пустыя словы”*, – гаворыцца ў заяве “звязаўцаў”, якую яны распаўсюдзілі ў сацсетках.

Дом знаходзіцца на вуліцы імя Уладзіміра Караткевіча, у ім пісьменнік напісаў ці не самую папулярную сваю аповесць “Дзікае паляванне караля Стаха”.

**Антон ЗАГОРСКІ.**

РЭГІСТРАТУРА

## Беларускія антыбіётыкі адправяць у ЗША

*Пра гэта паведаміў журналістам генеральны дырэктар Барысаўскага завода медпрэпаратаў **Віталь Дзерэш**.*

Цяпер завод рыхтуе цэх стэрыльнай рассыпкі антыбіётыкаў да сертыфікацыі на адпаведнасць патрабаванням GMP амерыканскай інспекцыі FDA. Пасля завяршэння гэтай працэдуры прадпрыемства зможа пастаўляць сваю прадукцыю ў ЗША і не толькі.

*“У 2018 годзе патрэбны будзе канчатковы аўдыт. Пасля атрымання гэтага сертыфіката завод плануе выйсці на шырокія замежныя рынкі з пастаўкамі прадукцыі, у прыватнасці, фасаваных антыбіётыкаў”*, – сказаў дырэктар.

У планах у прадпрыемства паставіць на рынкі далёкага замежжа прадукцыі на 1 млн долараў у 2018 годзе, паведамляе belta.by. Усяго экспарт завода прагназуецца на ўзроўні 66,6 млн долараў (у 2017 годзе – 64,6 млн долараў).

ЧУЛІ?

## За лішнія сумы ў жыроўках – штраф!

*У Беларусі ўвялі адміністрацыйную адказнасць для камунальнікаў за лішнія выстаўленыя сумы ў жыроўках. Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях дапоўнены адпаведным артыкулам.*

Цяпер службовым асобам арганізацый, якія ажыццяўляюць эксплуатацыю жыллёвага фонду і прадастаўляюць жыллёва-камунальныя паслугі, пагражае папярэджанне або штраф у памеры да дзвюх базавых велічынь (да 49 рублёў).

Караць рублём будуць не толькі за лішнія сумы ў жыроўках насельніцтва, але і арандатараў, лізінгаатрымальнікаў жылога памяшкання, членаў арганізацыі забудоўшчыкаў, дольшчыкаў, якія заключылі дагавор, які прадугледжвае перадачу ім у валоданне і карыстанне аб'екта долевага будаўніцтва.

Падставай для штрафу могуць стаць у тым ліку налічаныя ў жыроўкі сумы з перавышэннем за асноўныя і дадатковыя ЖКП, а таксама сумы за дадатковыя паслугі, на аказанне якіх не заключаўся дагавор.

З-за паўторнага парушэння на працягу аднаго года пасля накладання адміністрацыйнага спагнання прадугледжаны штраф ад чатырох да дзесяці базавых велічынь (ад 98 да 245 рублёў).

Змены ўступаюць у сілу з 29 кастрычніка гэтага года.

КОРАТКА

### «Сведкі Іеговы» правялі кангрэс

Штогод у сярэдзіне лета на стадыёне «Трактар» праходзіць рэгіянальны кангрэс Сведкаў Іеговы.

У адрозненне ад матчаў чэмпіянату Беларусі, падчас з'езду Сведкаў Іеговы на «Трактары» заўсёды шматлюдна, піша by.tribuna.com. Мерапрыемства стабільна збірае ад шасці да дзесяці тысяч паслядоўнікаў вучэння.

У 2018 годзе кангрэс праходзіць пад дэвізам «Будзьце мужныя!». Шмат і замежнікаў.

Цяпер у Беларусі больш за 20 абшчын Сведкаў Іеговы. Першыя з'явіліся ў Беларусі ў 1994 годзе.

### Мянялі падлогу – знайшлі міну

Сапраўдную праверку на стрэсаўстойлівасць давялося перажыць 30 ліпеня жыхарам прыватнага дома даваеннай пабудовы ў гарадскім пасёлку Бягомль.

Сям'я вырашыла перакласці падлогу. У працэсе работ пасля ўзняцця драўлянага насцілу ўладальнікі ўбачылі падазроны прадмет, які тырчаў з насыпу. Аб сваёй знаходцы яны паведамілі ў міліцыю.

Сапёры дасталі з-пад падлогі проціпяхотную міну часоў вайны, аб наяўнасці якой жыхары нават не падазравалі.

*«Да пэўнага моманту боепрыпас умоўна быў у бяспецы, аднак пры ўдары ў выпадку пралому падлогі ў гэтым месцы або пажары ён мог падарвацца»*, – цытуе belta.by начальніка службы інфармацыйна-прапагандысцкай работы в/ч 5524 Марыю Вараб'ёву.

Міна вывезена ў бяспечнае месца і знішчана.

### Замест Мінска – Смалявічы

Аб'ёмы будаўніцтва жылля ў Мінску і абласных цэнтрах прапануецца скараціць у два разы.

Такую ініцыятыву агучыў намеснік прэм'ер-міністра **Анатоль Калінін**.

Паводле яго слоў, прыярытэт будзе аддавацца развіццю гарадоў-спадарожнікаў. Мінбудархітэктуры падрыхтавала праект указа аб рэалізацыі інвестыцыйнага праекта па будаўніцтве эксперыментальнага жылога дома ў Смалявічах. Мяркуецца, што ў Смалявічы будуць перасяляцца грамадзяне, якія стаяць на ўліку маючых патрэбу ў Мінску. Ім будзе прадастаўлена дзяржпадтрымка.

НОВИНКА

## Есть суперкомбайн!

Похоже на то, что Беларусь будет иметь свой зерноуборочный комбайн мирового класса. На хлебных полях ОАО «Туровщина» Житковичского района уже испытывается, можно сказать, совершенно новая машина – КЗС-2124. Ширина уборочной полосы – 9 метров. Пропускная способность – 24 тонны зерна в час. Это примерно в два раза больше, чем у предшествующего комбайна КЗС-1624-1, которую до этого занимал верхнюю ступеньку модельного ряда «Гомсельмаша».



Суперкомбайн КЗС-2124 предназначен в первую очередь для использования на высокоурожайных участках, где с гектара выходит по 60–80 и более центнеров зерна. Это уже не новинка для передовых хозяйств Беларуси. Кое-где намолоты достигают и 100 центнеров.

Полевые испытания комбайна КЗС-2124 ускорят его серийное производство. Хотя он не уступает по характеристикам мировым образцам, стоимость намного ниже зарубежных собратьев.

**Виктор КУЗЬМИН.**

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

## Наталья ЭЙСМОНТ: «Президент жив и здоров!»

*Вчера вечером на украинском сайте dsnews.ua появилась новость о том, что главу белорусского государства госпитализировали с инсультом.*

«Народная Воля» обратилась за комментарием к пресс-секретарю А.Лукашенко **Наталье Эйсмонт.**

*«Это полная ерунда!* – сказала она. -- *Просто непонятно откуда взявшаяся утка. Президент жив и здоров, с ним все хорошо».*

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
31 ЛІПЕНЯ 2018 г.



АКТУАЛИИ

Светлана КАЛИНКИНА

# О Сьерра-Леоне и «технологиях бабы Лиды»

Беларусь на самых разных площадках продвигает «цифровую повестку дня». Президент, премьер, министры, депутаты в один голос заговорили о том, что Беларусь готова быть в фарватере современных технологий, и даже убедительно доказывают, что без этого страна нормально развиваться не сможет.

Правильно говорят. Но глава Центризбиркома Лидия Ермошина, видимо, не понимает, что от этих слов под ней подогревается сковородка.

«В Беларуси в сфере ИТ-технологий будет взрыв», – заявил Александр Лукашенко, подписав знаменитый указ о развитии Парка высоких технологий. «Беларусь должна стать колыбелью блокчейн-революции», – вслед за ним заговорили эксперты. И многие почему-то подумали, что это исключительно про деньги, про криптовалюты, и про то, что Национальному банку следует подготовиться к жизни в новой реальности. Вот только подготовиться надо всем – и особенно Центризбиркому. В противном случае заявка на то, что мы строим восточноевропейский Сингапур, не имеет смысла.

По утверждению специалистов, изобретение технологии блокчейн сродни изобретению интернета. Это технология создания огромной базы данных, которая функционирует без централизованного руководства, без единого сервера, она напрочь исключает возможность какой-либо фальсификации, оставляет без работы ревизоров и контролеров. Она настолько надежна, что оказалась применима даже в банках. Но не только в них.

Сам термин «blockchain» дает представление о том, как все устроено. «Block» – это блоки информации (о контрактах, сделках, лекарствах, назначенных пациентам, о книгах, взятых в библиотеке, – о чем угодно), «chain» – это «цепочка». Цепочки работают, будто конкуренты, заглядывающие друг другу через плечо, чтобы убедиться, что записи совершенно одинаковы. То есть технология выстраивает и шифрует взаимосвязанные цепочки информации, создавая базу данных, которую невозможно фальсифицировать, из которой невозможно ничего удалить или подменить.

На языке политиков это называется «сдержки и противовесы». А «невозможно фальсифицировать» в данной технологии понятие ключевое. И поэтому, конечно же, она не только про деньги, но еще и про… выборы.

Я – гуманитарий, и как большинство наших читателей, не сильна ни в кодах, ни в схемах, ни даже в специальных терминах. Но специалисты рассказывают, что применительно к выборам технология могла бы работать точно так же, как с криптовалютами. Граждане получают от избирательной комиссии специальные «фишки кандидатов», которые затем переводят на счет того кандидата, за которого голосуют. И для определения победителя достаточно проверить «счет» после окончания выборов. Все защищено цифровой подписью и разными иными хитростями. Вот так просто.

Более того, так как публичный блокчейн может проанализировать любой желающий, то после голосования каждый избиратель сможет отследить, правильно ли засчитан его голос.

Мертвые души при этой технологии голосовать не смогут, данные ни на каком этапе нельзя подменить, пресловутый «человеческий фактор» исключен. Итог подсчитает компьютер без какой-либо помощи Лидии Михайловны Ермошиной и тысяч ее добровольно-принудительных помощников, которые на каждых выборах изощряются над столами при подсчете бюллетеней, чтобы независимые наблюдатели в их «бухгалтерии» ничего не поняли, не услышали и не увидели.

Подозреваю, что наша «избиркомовская армия» уже готовит аргументы про то, что в Беларуси такие новшества неприменимы, так как далеко не все пользуются интернетом. Но ведь ничто не мешает подключить к интернету избирательные участки, чтобы люди голосовали «через компьютер» – мы ведь сделали заявку на то, что строим передовую ИТ-страну!

К тому же по этой технологии можно и бумажные бюллетени подсчитывать. Просто членам избиркомов надо будет не колдовать над ними, а подносить каждый к специальной «машинке». Эксперимент, кстати, был проведен в начале этого года даже в беднейшей стране мира Сьерра-Леоне. И в далекой Африке с задачей справились. Почему-то хочется верить, что мы не дурнее их.

Вот только Беларусь к такому технологическому прорыву готова? Лидия Ермошина готова к тому, чтобы отдать подсчет голосов на выборах нашим хваленым айтишникам?

Тогда как мы намерены презентовать миру то, чем сами не пользуемся? Про какую ИТ-революцию говорим? Кто нам поверит?

Вдумайтесь! В Сьерра-Леоне власти сделали все, чтобы итоги выборов вызвали доверие мира и собственных избирателей. А у нас до сих пор ведутся бесконечные споры о том, в скольких метрах от стола должны находиться независимые наблюдатели, и имеют ли они право видеть, за какого кандидата избиратель поставил галочку в бюллетене, должны ли слышать, как оглашаются итоги подсчета голосов...

Лидия Ермошина, как Брестскую крепость, защищает деревянные урны, «опечатанные» пластилином; итоговые протоколы с цифрами, проставленными простым карандашом, чтобы в любой момент можно было переписать и исправить; защищает эту дремучую систему, лишь имитирующую, будто народ в Беларуси имеет право голоса.

А значит, министрам, премьеру, президенту по поводу «цифровой повестки», которую Беларусь предлагает миру, даже напрягаться не стоит. Им надо понимать, что пока мы удивляем мир «технологиями бабы Лиды», у нас просто нет шансов, что кто-то поверит в современную прогрессивную, успешную «ИТ-Беларусь». Потому что если ты что-то кому-то хочешь продать, то сначала должен использовать это сам. А значит, блокчейн-революцию надо начинать с себя. Но мы, судя по поведению чиновников от выборов, «не готовы».

КУЛЬТУРНЫЯ ЛЮДЗІ

# Каля 5 тысяч чалавек прыйшлі паслухаць канцэрт класічнай музыкі



*У мінулую суботу на сцэне каля мінскай Ратушы сыгралі скрыпач Нікан Мазоль, флейтыстка Соф'я Аврэйцэвіч, саксафаністка Анастасія Кравец, габаіст Арсень Мянькоў і іншыя артысты.*



*«Для многіх мінчан класічныя канцэрты пад адкрытым небам сталі прыемнай традыцыяй і неад'емнай часткай летняга адпачынку,* – гаворыць начальнік аддзела карпаратыўных камунікацый velcom Мікалай Брэндзелеў. – *Мы хочам зрабіць фестываль актуальным для гледачоў розных пакаленняў, таму на нашых канцэртах можна будзе нават пачуць рок- хіты ў класічным гучанні*».

Падчас трэцяга канцэрта «Класікі каля Ратушы з velcom» гледачы сталі ўдзельнікамі незвычайнага флэш-мобу. Гасцям фестывалю раздалі спецыяльныя музычныя трубкі – Boomwhackers, і разам з аркестрам пад кіраўніцтвам дырыжора Максіма Расохі гледачы выканалі «Гусарскі марш» А.Пятрова.

Наступны канцэрт пад адкрытым небам адбудзецца 4 жніўня ў 20.30. Па традыцыі, усе канцэрты ў рамках фестывалю – бясплатныя. Канцэрты «Класіка каля Ратушы з velcom» працягнуцца да 25 жніўня.

**Вера ВІР.**

SOS!

# Спякота. Вада. Трагедыя

*Толькі за мінулыя выхадныя ў Беларусі патанулі 13 чалавек.*

Спякотныя дні, мабыць, і радуюць тых, хто любіць адпачыць на беразе ракі ці возера, але традыцыйна дадаюць работы ратавальнікам на вадзе.

*"Можна тысячы разоў распавядаць людзям пра тое, што нельга ў стане алкагольнага ап'янення лезці ў ваду, але людзі часам настолькі самаўпэўненыя, што дагрукацца да іх свядомасці практычна немагчыма,* – кажа мне Сяргей, які працуе вадалазам на адной са сталічных ратавальных станцый. – *Пры гэтым алкаголь становіцца нязменным атрыбутам для многіх адпачываючых, але далей сцэнарый вядомы: пераацэненыя сілы – вада – трагедыя".*



Вось толькі некаторыя факты, якія прыводзіць Рэспубліканскае таварыства ратавання на вадзе:

*На штучным вадаёме ў Віцебску, ля Лядовага палаца, пры купанні ў стане алкагольнага ап'янення (нырнуў з берага і не выплыў) патануў 30-гадовы мужчына.*

*На рацэ Заходняя Дзвіна 23-гадовы хлопец палез у ваду нападпітку і патануў.*

*У Гродне, каля вуліцы Падольная, у раку Нёман упала ў стане алкагольнага ап'янення 30-гадовая жанчына. Выратаваць яе не ўдалося.*

*Мужчына нападпітку (31 год) патануў у рацэ Бесядзь, каля вёскі Белая Дуброва Касцюковіцкага раёна…*

Яшчэ адна вялікая праблема для ратавальнікаў – дзеці, якіх бацькі пакідаюць у летнія дні ля вадаёмаў без нагляду.

*"За дзецьмі патрэбна вока ды вока,* – дадае мой суразмоўца. – *Дзіця можа гуляцца ля берага, дзе неглыбока, але ступіць некалькі крокаў убок, а там ужо – яма. Таму дарослыя павінны абавязкова быць побач. Акрамя таго, бацькі павінны тлумачыць падлеткам, якіх адпускаюць адных купацца, што можна, а што нельга. Гарэзлівасць нярэдка прыводзіць да трагічных выпадкаў. Са штучных трамплінаў дзеці скачуць у ваду і разбіваюцца аб камні альбо трапляюць на жалезныя пруты. На спрэчку робяць заплывы "хто далей заплыве". Я не збіраюся павучаць дарослых, але, калі ў людзей ёсць мазгі ў галаве, то яны самі прадпрымуць усе меры, каб іх дзеці і радасць ад адпачынку атрымалі, і заставаліся жывыя ды здаровыя".*

*"У мінулыя выхадныя было вельмі спякотнае надвор'е, таму народ традыцыйна пацягнуўся да вады,* – кажа прадстаўніца Беларускага рэспубліканскага таварыства ратавання на вадзе **Люцыя Гуськова**. – *Калі, напрыклад, з 9 па 15 ліпеня ў краіне патанулі 12 чалавек, то толькі за два дні ў мінулыя суботу і нядзелю – 13! Увогуле ж, з пачатку года адбылося ўжо 218 трагічных выпадкаў на вадзе".*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

РЭГІЁН

# Жоўты колер будзе сведчыць пра запазычанасць

Гродзенскія ўлады першымі ў Беларусі ўводзяць квітанцыі аб аплаце за камунальныя паслугі жоўтага колеру. Жоўтыя "жыроўкі" будуць сведчыць пра запазычанасць па аплаце камунальных паслуг.

У інфармацыйна-разліковым цэнтры Гродна мяркуюць, што квітанцыі жоўтага колеру найперш будуць нагадваць плацельшчыкам пра іх запазычанасць, калі людзі папросту пра гэта забываюцца. Праўда, калі такі напамін не паўплывае на памяць плацельшчыкаў, то спаганяць даўгі будуць прымусова.

Плануецца, што квітанцыі жоўтага колеру будуць дасылаць усім, хто занесены ў спісы неплацельшчыкаў. Зараз, паводле афіцыйных дадзеных, вядома, што з 74.000 рахункаў плацельшчыкаў дамоў муніцыпальнай уласнасці ў Гродне 5700 знаходзяцца ў спісах даўжнікоў.

Да ўвядзення жоўтых квітанцый тым, хто забываўся плаціць за камунальныя паслугі ў Гродне, работнікі разлікова-інфармацыйных цэнтраў нагадваюць праз тэлефон, прыходзяць дамоў, накіроўваюць лісты на працу.

**Арсень НАВІЦКІ.**

ЧУЛІ?

# Герой Расіі Уладзімір Шаманаў адкрыў у Брэсце помнік дэсантнікам

*29 ліпеня ў парку культуры і адпачынку 1 мая адкрылі скульптурную кампазіцыю, прысвечаную легендарным вайскоўцам.*

Галоўны герой помніка -- мульцяшны персанаж дэсантнік Сцёпачкін. Гэта падлетак, яго самавольна прызвалі ў паветрана-дэсантныя войскі ўпотай ад мамы і работнікаў ваенкамата. Мульцік стаў культавым, асабліва сярод вайскоўцаў, піша «Вячэрні Брэст».

На адкрыцці кампазіцыі прысутнічаў **Уладзімір Шаманаў**. Легендарны генерал-палкоўнік, Герой Расійскай Федэрацыі, камандуючы паветрана-дэсантнымі войскамі Расіі ў пераломны час. Цяпер Уладзімір Анатольевіч – старшыня камітэта па абароне Дзяржаўнай Думы.

Да парку, дзе ўсталявана скульптура, Шаманаў прыбыў з цэлым картэжам у суправаджэнні міліцэйскіх машын з мігалкамі.



НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

# Соломинка для утопающих

В СМИ продолжают обсуждать недавнее очередное совещание с участием главы государства по оздоровлению сельхозпредприятий. Очередное, потому что подобных мероприятий по сельскому хозяйству проводилось множество. На этот раз речь шла о 323 сельхозпредприятиях, проходящих процедуру финансового оздоровления в рамках указа президента от 4 июля 2016 года. За прошедшие два года еще 102 сельхозорганизации оказались в зоне риска банкротства. А это уже около 30% общего числа предприятий отрасли. За эти же два года из 323 проблемных предприятий 40 прекратили существование в связи с присоединением, продажей или безвозмездной передачей.

По словам главы государства, к лету текущего года было принято столько решений на эту тему по проблемным хозяйствам, «что все они должны быть прибыльными». Не лишне заметить, что отрасли оказывается беспрецендентная господдержка в разных формах. Это и льготное налогообложение, и льготные кредиты, компенсируемые банкам из бюджета, льготные цены на удобрения, безвозмездная помощь и т.п. Без такой господдержки были бы убыточными более 60% сельхозпредприятий.

Было создано Агентство по управлению активами, которому передали большую часть безнадежных кредитов сельскохозяйственников. Часть долгов была списана по еще советским лекалам. Правда, в те советские времена об этом громогласно объявлялось на всю страну как добрая воля партии и правительства. Сейчас, понятно, это не афишируется. Потому что результатов-то почти нет. Сумма чистого убытка без господдержки за 4 месяца 2018 года составила у аграриев 222,9 млн рублей. Потери убыточных предприятий подскочили к 2017 году на 46%. Рентабельность продаж агросектора без господдержки упала до минус 1,3% против +0,5% в прошлом году. Просроченная задолженность сельского хозяйства достигла 3,1 млрд рублей, что больше таких же долгов отрасли в 8,4 раза. Сумма кредиторской задолженности и долга по кредитам и займам превышает задолженность дебиторскую в 9,5 раза.

В сущности, экономика постоянно глубоко авансирует сельхозорганизации. Надо ли лишний раз напоминать, что зарплата в сельском хозяйстве остается одной из самых низких, что население из большинства деревень мигрирует в города, и что не поймешь, кто сегодня остался в сельхозпроизводстве?

Конечно, есть на селе и крепкие хозяйства, куда и возят различного рода делегации. Хорошие животноводческие комплексы, высокая культура земледелия. Ими руководят эффективные менеджеры, которые и определяют развитие производств. Для улучшения статистики к самым лучшим хозяйствам присоединялись отстающие, совсем слабые передавались в довесок банкам, включая Нацбанк, для оказания им финансовой помощи. Главами СПК иногда назначали проштрафившихся руководителей из других областей в наказание и с надеждой, что они вытянут предприятия.

Что только не предпринималось властями для улучшения дел в сельском хозяйстве! Однако положение многих сельхозорганизаций по-прежнему остается бедственным. Естественно, главными держателями долга хозяйств являются госбанки во главе с Белагропромбанком. По этой причине взятые на себя банками кредитные риски могут поставить их на грань предбанкротного состояния.

Правительство на вышеозначенном совещании убедило главу государства принять предложенный им соответствующий документ по спасению отрасли за основу. Вероятно, с последующими доработками. Что же в очередной раз предлагает правительство? Оно заявляет, что речь не идет о списании финансовой задолженности проблемных сельхозпредприятий, а об ее реструктуризации, в том числе ее секьюритизации. Последнее означает, что долг оформляется пакетом ценных бумаг. Сельхозпредприятиям дается отсрочка на 3 года по уплате долгов с последующей рассрочкой на 5 лет при условии соблюдения текущих платежей по долгам. Кредиторы получают право получить задолженность предприятий в виде дополнительно эмитированных акций с передачей их в собственность кредитодателей. Долги сельхозпредприятий могут оформляться и муниципальными облигациями, которые эмитируются исполкомами разных уровней. Собственно, перевод сельхоздолгов на исполкомы практиковался и ранее и практикуется сейчас. Эти облигации в добровольно-принудительном порядке в основном и покупали те же банки. Гарантом их погашения являются местные бюджеты. Таким хитрым способом долги аграриев «размазываются» по всем налогоплательщикам.

Однако, согласно Бюджетному кодексу, размер лимита долга органов местного самоуправления и гарантий местных властей суммарно не может превышать 80% доходов местного бюджета. Но уже в начале 2018 года, к примеру, долги по 5 областям превысили 100% их собственных доходов. Поэтому многим исполкомам придется решать дилемму: или тратить деньги на неэффективные СПК, или своевременно выплачивать зарплаты и выполнять другие социальные обязательства.

Как сообщают СМИ, проект указа предусматривает передачу 25% акций сельхозпредприятия плюс одна акция его руководителю по результатам реализации бизнес-плана при условии достижения эффективной деятельности руководимым им акционерным обществом. Аналитики расценивают это нововведение как шаг в верном направлении. Контрольным пакетом акций должно владеть не государство, как сегодня, а собственники, включая коллектив предприятия. Причитающиеся коллективу дивиденды будут нацеливать акционеров на продуктивную работу. Как правило, эффективными менеджерами становятся эффективные собственники.

В то же время по поводу грядущего указа у некоторых специалистов возникает немало вопросов, касающихся его правоприменительной практики. Например, какой резон банкам вступать как ведущим акционерам в управление непрофильными активами? В условиях командно-административной системы государство может как наделить акциями руководителя, так и забрать их назад. Кто будет покупать секьюритизированные долги сельхозпредприятий, когда многие из них выглядят как безнадежные? Не будут ли трактовать компетентные органы прощение долгов сельхозорганизациям в виде мировых соглашений или как-то иначе, как ущерб бюджету в виде недоплаченных налогов?

Пока суд да дело, не сводящие концы с концами хозяйства лежат на плечах всего общества, оно их кормит из бюджета, а не они нас, как это принято рассуждать. В чем главная причина такой ситуации? На мой взгляд, в первую очередь правительству надо создать в отрасли соответствующие условия для продуктивной работы. Может быть, решение проблемы следует искать в другой плоскости? В переходе СПК на крестьянские и фермерские хозяйства? Другими словами, на путях той же приватизации. Ведь удачные фермеры вопреки всему в Беларуси есть. Рентабельность продаж у фермеров достигает 18–20%. Чистая прибыль за 2017 год составила 76,5 млн рублей и была получена с 2% сельскохозяйственных земель Беларуси. Но успешными собственниками не надо руководить так, как по меньшей мере это делается сейчас. Им не нужно столько чиновников в центре и на местах, которые будут командовать, что и когда сеять, кому и в каком объеме продавать урожай и т.п. Это уже будет рыночное, самоуправляемое сельское хозяйство, какое и кормит весь народ в других странах. А оно им надо?

АБИТУРИЕНТ – 2018

## Бюджетных мест меньше, чем платных

Высшие учебные заведения страны заканчивают обработку абитуриентских заявлений. Многие юноши и девушки, обеспечившие себе высокими результатами тестирования прохождение на бесплатное обучение, уже увидели свои фамилии в списках студентов-первокурсников.

Но, к сожалению, из 54,4 тысячи человек, которых вузы готовы зачислить на первый курс, только 26,5 тысячи будут обучаться за счет госбюджета. Остальным придется самим изыскивать средства.

Перед некоторыми высшими учебными заведениями, в частности региональными, встала проблема недобора студентов даже на бюджетное обучение. Они вынуждены пойти на дополнительные наборы. Свободные места оказались для будущих физиков, электронщиков, технологов… От желающих получить такие специальности, впрочем, и некоторые другие, документы будут приниматься до 3 августа.

**Игорь ВЕРКОВЕЦ.**

ЗАКУЛІССЕ

## Зміцер Вайцюшкевіч сабраў музычны фэст

*На наднёманскім хутары "Вайцюшкі", які належыць вядомаму музыканту і выканаўцу **Зміцеру Вайцюшкевічу**, прайшоў традыцыйны песенны фестываль "Пад ліпамі".*

За два вечары перад гасцямі выступілі **Алесь Камоцкі, Віктар Шалкевіч, Сяргей Чарняк,** трыа "Дзівасіл", маладыя выканаўцы і сам гаспадар хутара.

Па яго словах, *"ідэя фэсту "Пад ліпамі" – сабраць у адным месцы беларускіх бардаў, як гэта робіцца, напрыклад, на замежнай Беласточчыне падчас "Бардаўскай восені". Але нашых бардаў мы збіраем у самую макаўку лета, калі квітнее непаўторная беларуская прырода. Наш фестываль адбываецца ўжо гадоў пяць, дакладна не памятаю, мы асабліва не сочым за храналогіяй".*

Як сведчаць наведнікі Вайцюшкоў, там заўсёды пануе своеасаблівая ўзнёслая атмасфера. Хутар **Зміцера Вайцюшкевіча** высілкамі яго гаспадара ператварыўся ў артыстычную пляцоўку на беразе Нёмана, там некалькі гадоў запар ладзяцца традыцыйныя літаратурна-мастацкія і музычныя сустрэчы, сярод якіх "Салаўё", "Купалле" і "Пад ліпамі".

**Антон ЗАГОРСКІ.**

ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО…

## Прадзед Шастаковіча нарадзіўся ў Беларусі

***3–9 жніўня ў Мядзельскім раёне Мінскай вобласці пройдзе трэці міжнародны фестываль, прысвечаны Дзмітрыю Шастаковічу.***

Фэст праводзіцца з 2016 года па ініцыятыве Пасольства Беларусі ў Францыі і прадстаўніка беларускай дыяспары ў Францыі, старшыні асацыяцыі «Францыя – Беларусь. Сяброўства» **Аркадзя Валадося**, які ў 2017 годзе за вялікі ўклад у развіццё беларуска-французскага супрацоўніцтва ў сферы культуры ўзнагароджаны медалём Францыска Скарыны.

Прадзед Дзмітрыя Шастаковіча – выдатнага сусветнага і савецкага кампазітара і музыканта XX стагоддзя – нарадзіўся ў 1808 годзе ў беларускім мястэчку Шэметава, сёння Мядзельскі раён Мінскай вобласці.

Пасол Беларусі ў Францыі **Павел Латушка** адзначае, што фестываль становіцца ўсё большай падзеяй у культурным жыцці Мінскай вобласці і яго правядзенне будзе спрыяць захаванню і папулярызацыі памяці пра сусветна вядомага кампазітара, дазволіць прадэманстраваць нашу ўвагу і павагу да яго творчасці.

Плануецца, што на сёлетні фэст у Мядзельскі раён прыедуць музыканты не толькі з Беларусі, але яшчэ і з Францыі, Балгарыі і Сербіі.

**Паліна ПЛАТОНАВА.**

ДЫЯЛОГІ





# Міхась СКОБЛА – Адам МАЛЬДЗІС

# «Каліноўскага трэба пахаваць на Гары Трох Крыжоў, якія сімвалізуюць Літву, Польшчу і Беларусь»

*Чалавек-інстытут, чалавек-энцыклапедыя, найлепшы знаўца айчыннай культуры XVIII–XIX стагоддзяў. Першы кіраўнік Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, стваральнік і першы дырэктар Навукова-асветнага цэнтра імя Францыска Скарыны. Адкрывальнік цэлага мацерыка старажытнай літаратуры і аўтар захапляльнай кнігі "Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча"… Усё гэта **Адам Мальдзіс**, які і ў паважным веку без справы не сядзіць на прызбе. Пра свае клопаты і планы ён пагадзіўся расказаць чытачам "Народнай Волі".*

## «Астравец – свету не канец»

**– Адам Восіпавіч, нашу гутарку я распачну з эпіграмы Рыгора Барадуліна, прысвечанай вам: "У Польшчы ён паляк, / літовец у Літве, / найбеларус у Беларусі. / Хай не пусцее дружбы гляк, / сябрына не змаўкае ў скрусе. / А муза шэпча – не аддам, / ён і да рыфмаў-дам не чэрствы. / У акадэміі Адам – / энцыклапедыя братэрства". І сапраўды, зробленае вамі магло б скласці цэлую энцыклапедыю беларуска-польскіх і беларуска-літоўскіх стасункаў. Вы чалавек памежжа?**

– Хтосьці лічыць няшчасцем тое, што Беларусь знаходзіцца на культурным памежжы Усходу і Захаду, на памежжы дзвюх вялікіх культур – праваслаўна-візантыйскай і каталіцка-раманскай. Але мне гэта бачыцца шчасцем. Бо, дзякуючы нашаму месцазнаходжанню, адбываецца ўзбагачэнне і беларускай культуры. Толькі на памежжы маглі ўзнікнуць такія з'явы, як Скарына, драўляныя цэркаўкі на Палессі ці славутыя слуцкія паясы… На жаль, мы спазніліся ў сваім нацыянальным развіцці, перад намі рэальна стаіць пагроза асіміляцыі. А вазьміце вы паўстанні, сталінскі тэрор, Другую сусветную вайну, партызанку. Народ вынішчаўся… І цяпер яшчэ Беларусь вымірае, штогод памяншаецца на некалькі дзясяткаў тысяч чалавек. Як пісаў той жа Барадулін – мы жывём у Беларускіх Выміратах… Гэта ўсё павінна трывожыць нас.

**– 2018-ы абвешчаны ў Беларусі Годам малой радзімы. Якія ў вас стасункі з роднай Астравеччынай? Ці захавалася ваша хата ў роднай вёсцы Расолы?**

– Хата згарэла яшчэ ў 1970-я гады. Засталася хата майго цесця ў Палушах. На жаль, апошнім часам я там рэдка бываю, здароўе не дазваляе. А раней я на малой радзіме кожны камень ведаў, напісаў кнігу "Астравеччына – край дарагі". Праўда, першапачаткова ў яе была іншая назва – "Астравец – свету не канец". Мяне паклікаў выдавецкі рэдактар і кажа: "У Савецкім Саюзе не можа быць канца свету. Прыдумай другую назву". А чаму ў нас так гаварылі: "Астравец – свету канец", я нават і не ведаю. Бо ў нас там блізка Вільня, куды можна было паехаць працаваць. Шмат хто з маіх землякоў перасяляўся туды на сталае жыхарства. І Астравецкі раён павалі бязлюднеў.

**– Затое цяпер там ажыўленае месца. Атамная станцыя будуецца, раённы цэнтр разбудоўваецца, людзі задаволены, што праца будзе.**

– І ўсе забыліся, што Астравеччына – сейсманебяспечнае месца. Пра гэта я даведаўся са старой "Нашай Нівы". Аказваецца, у 1912 годзе на Астравеччыне адбыўся землятрус. Ніхто тады на балы не мераў, але адчувальна зямля трaслася, што і было зафіксавана на старонках газеты. Як на мой розум, то станцыю ўсё ж трэба было будаваць на Магілёўшчыне, разглядаўся ж і такі варыянт. Але што цяпер пра гэта гаварыць… Я зміры́ўся. Што там я – і прэзідэнт Літвы Даля Грыбаўскайтэ ўжо маўчыць, хоць ад станцыі да Вільнюса кіламетраў з паўсотні ўсяго.

## «Культурнае збліжэнне павінна апярэджваць палітыку і эканоміку»

**– Апошнім часам наша краіна спрабуе сябраваць з далёкімі краінамі – найперш з Кітаем, да якога тысячы кіламетраў. Ці можа з гэткага партнёрства атрымацца вялікая ўзаемная карысць?**

– А чаму ж не? З Кітаем у нас сувязі даўнія, як і з Японіяй. У тым жа Астраўцы, дарэчы, стаіць помнік Восіпу Гашкевічу – чалавеку, які звязвае Беларусь з Далёкім Усходам. Гэта выдатны вучоны, у Беларусі ён нарадзіўся, на радзіме і памёр. Я быў у Японіі, у горадзе Хакадатэ, дзе ён разгортваў сваю дзейнасць, удалося нават адшукаць магілу ягонай жонкі. Гашкевіч быў першым еўрапейскім консулам у гэтай краіне. Ён і для Кітая шмат зрабіў. Я адшукаў яго цікавыя артыкулы пра Кітай (старонак 100). Невыпадкова Вялікі Шаўковы шлях ішоў з Кітая ў Еўропу праз Астравеччыну, па Віліі. Разумееце, культурнае збліжэнне павінна апярэджваць палітыку і эканоміку. Бо чалавек, для якога Беларусь – пустэльня ў культурным плане, ніколі не будзе інвеставаць сюды сродкі. Мы павінны стварыць сваёй краіне імідж высокакультурнай дзяржавы.

**– Як лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі і кавалер ордэна Скарыны вы былі прымацаваны да гэтак званай Лечкамісіі. Цяпер многіх заслужаных людзей чамусьці пазбавілі абслугоўвання ў гэтай бальніцы. А вас?**

– І мяне пазбавілі. Да новазбудаванай "лечкамісіі" ў Ждановічах прымацавалі толькі чыноўнікаў. А ўсіх пісьменнікаў, кампазітараў, мастакоў, хто мае нейкія званні, "спісалі" ў паліклінікі па месцы жыхарства. Я днямі быў у сваёй на вуліцы Ульянаўскай. Там парадкі яўна савецкія – маса людзей, доўгі калідор, кабінеты налева-направа. Месцаў у бальніцах не хапае. Мне доктарка так і сказала: "Калі б былі свабодныя месцы, мы вас паклалі б". А ў Лечкамісіі мяне не толькі лячылі, але і адпраўлялі на месяц у спецыялізаваныя лякарні. Там была нейкая арыстакратычная атмасфера. Доктар нават на калідоры здароўкаўся і пытаўся пра здароўе, а ў раённай паліклініцы ўсё бягом-бягом. Я пакуль толькі адзін раз там быў, але мне аж страшнавата стала. У маім Астраўцы і то лепшае медыцынскае абслугоўванне. Відаць, таму, што там шмат замежнікаў бывае.

## «Скарына, верагодна, быў адным з аўтараў Статута ВКЛ»

**– Сёлета Астраўцу спаўняецца 550 гадоў. Вас запрасілі на юбілей?**

– Запрасілі – на 24 жніўня. Хачу паехаць і выступіць на Астравецкіх чытаннях з дакладам "Скарына як адзін з аўтараў Статута ВКЛ". Справа ў тым, што будучы канцлер ВКЛ Альбрэхт Гаштольд таксама, як і Скарына, скончыў Кракаўскі ўніверсітэт. Прагледзеў я склад камісіі, якая пад кіраўніцтвам Гаштольда працавала над Статутам – там няма ніводнага кваліфікаванага юрыста. А Скарына, з вялікай доляй верагоднасці, юрыдычную адукацыю атрымаў – у Капенгагене. Дык на каго мог абаперціся Гаштольд у справе выдання Статута? Толькі на Скарыну.

**– Вядома, што вы з'яўляецеся прыхільнікам кананізацыі Скарыны. Але сёння ён роўнавялікі для ўсіх – праваслаўных, католікаў, уніятаў. Калі ж яго кананізуе нейкая адна царква, ці не зашкодзіць гэта і Скарыну, і ўсёй Беларусі?**

– Можа зашкодзіць усім. І сяму-таму з нашых суседзяў "скарынаўскі раскол" быў бы на руку. Таму трэба, каб у справе кананізацыі Скарыны тры царквы – каталіцкая, праваслаўная і ўніяцкая – ішлі разам ці хаця б паралельна.

**– Прабачце, але гэта выглядае фантастыкай. Я не прыпомню за тысячу гадоў хоць адзін падобны выпадак.**

– Тут можна згадаць гісторыю з Сафіяй Слуцкай. Яна ж цяпер у нас праваслаўная святая, у Слуцку помнік стаіць, а новыя дакументы гавораць, што яна была замужам за Радзівілам, які быў пратэстантам. Тут, праўда, трэба разумець адну акалічнасць. У эпоху сярэднявечча адносіны да розных канфесій былі адрознымі ад сённяшніх. І для Скарыны пераход у каталіцтва быў неістотным. Ён цытаваў у сваіх прадмовах айцоў царквы – і праваслаўных, і католікаў. Ён нідзе не выступаў ворагам праваслаўя. Наадварот, ён паехаў у Маскву прадаваць кнігі сярод праваслаўных. Значыць, менавіта праваслаўных ён лічыў сваімі чытачамі.

## «Хай будзе падвойнае імя – Францыск Георгій»

**– Скарына прадаваў свае пераклады Бібліі. Тое, што ён займаўся прадпрымальніцкай дзейнасцю, не перашкода для кананізацыі?**

– А што ён мусіў рабіць, калі скончылася дапамога ад віленскіх фундатараў? Ён паехаў у Маскву, каб прадаць там кнігі і зарабіць на наступныя выданні. Сумленная гаспадарчая дзейнасць не лічыцца грахом.

**– Але ж кандыдат у святыя мусіць быць цудатворцам. Кнігадрукаванне можна разглядаць як цуд?**

– А хіба не цуд, што Скарына пераклаў Біблію ўсяго за чатыры гады? Іншыя перакладчыкі ўсё жыццё перакладалі, а тут нейкія чатыры гады. Цудам можна лічыць і тое, што Скарына змог уцячы з Прусіі, мяжа з ёю была на той час сур'ёзная. Да таго ж Скарына праявіў акт гуманізму, калі ўзяў за жонку Маргарыту Адвернік з дваімі дзецьмі і прызнаў іх за сваіх.

**– Вы ўзнагароджаны і медалём, і ордэнам Скарыны. Прычым на медалі адно імя – Францыск, а на ордэне два – Францыск Георгій. Дзе памылка?**

– Памылкі нідзе няма. Мне ўдалося знайсці дакументы пра тое, што ў 1498 годзе ў Полацку існаваў бернардынскі ордэн, які вёў там актыўную прапаведніцкую дзейнасць, хрысціў людзей. Дзейнасць полацкіх бернардынцаў набыла такі размах, што яшчэ ў 1501 годзе выклікала занепакоенасць маскоўскага цара Івана III. І вось, як мяркуе гісторык ордэна Кантак, полацкія бернардынцы ахрысцілі мноства палачан, у тым ліку і сям'ю Скарынаў, якая ад пачатку была праваслаўнай. Думаецца, невыпадкова Скарына прыняў імя Францыск, бо Святы Францыск быў адным з апекуноў ордэна. Так што не трэба выкрэсліваць Георгія. Хай будзе падвойнае імя.

**– На жаль, у леташні юбілейны год імя Скарыны не атрымаў ні Нацыянальны аэрапорт, ні Нацыянальная бібліятэка. Зразумела, што не будзе вернута імя першадрукара і галоўнаму праспекту беларускай сталіцы. Так і задаволімся крывой вуліцай за кружной дарогай?**

– Скарынаўскі праспект стаў праспектам Незалежнасці – хіба ж гэта кепска? Іншая справа, што імем вялікага Скарыны трэба было назваць не вуліцу на ўскраіне, а нешта больш адпаведнае. Я – за Нацыянальную бібліятэку імя Скарыны. Але яе кіраўніцтва чамусьці гэтага не хоча, прапануе аэрапорт. Маўляў, ёсць жа ў Варшаве аэрапорт імя Шапэна. А на маю думку – толькі бібліятэка. І помнік жа стаіць каля бібліятэкі. А ў аэрапорце дзе яго ставіць, на ўзлётнай паласе? Смеху варта!

## «Шкада Скарынінскага цэнтра…»

**– У Вільнюсе на гары Гедыміна выяўлена пахаванне паўстанцаў 1863 года. Калі пацвердзіцца, што знойдзены прах Кастуся Каліноўскага, дзе яго перапахаваць?**

– Я чытаў пра гэта. Хтосьці прапануе могілкі Росы, хтосьці – перавозіць у Беларусь. А я вось што на гэты конт думаю. У Вільнюсе побач з гарой Гедыміна ёсць Гара Трох Крыжоў. Тыя крыжы былі ўсталяваны ў памяць пра паўстанне 1863 года. Тры крыжы – гэта Літва, Польшча і Беларусь. Вось там і трэба перапахаваць і Каліноўскага, і Серакоўскага, і астатніх. Яны ж змагаліся і за Беларусь, і за Польшчу, і за Літву. Па-мойму, гэта найлепшае выйсце, якое ўсіх задаволіць.

**– Вы працавалі на розных кіраўнічых пасадах – і ў Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, і ў ПЭН-цэнтры, і ў Навукова-асветным цэнтры імя Скарыны. Дзе вы пачуваліся, як кажуць, у сваёй талерцы?**

– Мабыць, у Скарынінскім цэнтры. Ён задумваўся як Інстытут нацыі, як Усебеларускі дом. Пры ім ствараўся музей "Беларусы ў свеце", банк інфармацыі па беларусазнаўстве... Але ж захацела яго ўзначаліць адна авантурная асоба. Мяне і ўгаворвалі, і запалохвалі, і напад на мяне быў здзейснены каля дома.

**– Дык вы лічыце, што тая асоба такім чынам пазбаўлялася ад канкурэнта?**

– Хто ведае… Можа, яе нехта натхняў. Міліцыя тады нападнікаў не знайшла. А Скарынінскага цэнтра, безумоўна, шкада. Там працавалі такія выдатныя навукоўцы – Уладзімір Конан, Захар Шыбека, Галіна Дубянецкая, Юрась Залоска...

## «Караткевіч гаварыў, што з Масквы да нас Азія ідзе»

**– Вы сябравалі з Ларысай Геніюш, Уладзімірам Караткевічам, якія сталі класікамі, кумірамі для маладзейшых. Прыгадайце які-небудзь цікавы эпізод з іх жыцця.**

– Уявіце сабе Кракаў. Караткевіч упершыню за мяжой, таму што яго не пускалі, лічылі, што ён там папросіць палітычнага прытулку. Нарэшце па прыватным запрашэнні, ініцыяваным мной, яго выпусцілі. І вось мы дамовіліся сустрэцца з ім каля помніка Міцкевічу. Я бачу, што ён разглядае сувеніры ў кіёску. А да мяне падбягае цыганка: давайце я вам шчасце выважу. Я кажу, што я ў варажбу не веру, няхай пані выварaжыць шчасце таму сімпатычнаму маладому чалавеку ў футравай шапцы, які называецца Уладзімірам і з'яўляецца беларускім пісьменнікам. Для кемлівай цыганкі гэтай інфармацыі дастаткова. Яна падыходзіць да Караткевіча: "Шаноўны пане, я магу сказаць, колькі вы выдадзіце кніжак у наступным годзе!" А ў таго валасы дыбарам – адкуль яна яго ведае? Ён шчодра пазалаціў ёй ручку. Мы сустрэліся, і я пытаюся – чаго ты такі збянтэжаны? "Стары, – адказвае Караткевіч, – адкуль кракаўскія цыганкі могуць ведаць маё імя?" Я паглядзеў на вежу Мар'яцкага касцёла, на помнік Міцкевічу і глыбакадумна сказаў: "Слава, Валодзечка, слава, яна ўжо і да Кракава дайшла!" Караткевіч марыў пра Беларусь незалежную, мара яго нібыта спраўдзілася, але… Мы ўсё чамусьці азіраемся ва ўсходнім напрамку. А Караткевіч, нягледзячы на тое, што ён у Маскве вучыўся і перажыў там сапраўднае каханне да масквічкі, заўсёды гаварыў, што "адтуль да нас Азія ідзе".

**– А гэта праўда, што Караткевіч вывеў вас у якасці аднаго з герояў рамана "Чорны замак Альшанскі"?**

– Праўда. Раней пад вокнамі маёй кватэры спыняліся вясковыя фурманкі, таму што побач быў Старажоўскі рынак. І вось аднойчы сяляне распівалі пад акном барышы, і я бачу, што людзі саромеюцца піць з бутэлькі. Я дастаў з буфета чаркі і падаў ім праз адчыненае акно. А яны і мяне пачаставалі, самагонка, праўда, была добрая. Мая жонка Марыя ведала, што ў хаце няма спіртнога. А я выходжу снедаць нападпітку – жонка была дужа здзіўлена! Я расказаў Караткевічу, і ён потым апісаў гэтую сцэну ў рамане.

**– Вы ў свой час сустракаліся з Папам Рымскім у Ватыкане. Як вы лічыце, чаму беларускія каталікі ніяк не дачакаюцца ягонага візіту ў Беларусь? Ва Украіну ён прыязджаў, у Літву – таксама.**

– Суіснаванне розных хрысціянскіх канфесій, узаемадапаўненне, узаемаўзбагачэнне – гэта, паўтаруся, шчасце Беларусі. Прыезд Папы ў Беларусь, напрыклад, у Будслаў, дзе знаходзіцца цудатворная ікона, зрабіў бы гонар Беларусі. Папа ж не толькі кіраўнік Каталіцкага касцёла, але і кіраўнік дзяржавы, ён павінен ездзіць бесперашкодна па ўсім свеце.

## «Калі імператрыцы трэба было знайсці нейкага злачынцу, то яна загадвала пашукаць яго ў Шклове»

**– У вашай кнізе «Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя» я вычытаў, што беларускі горад Шклоў у той час быў напоўнены шулерамі і ўсякага роду авантурнікамі. А чым Шклоў быў для іх так прывабны?**

– Шклоў праславіўся ў час, калі там гаспадарыў фаварыт Кацярыны II і мецэнат Зорыч. Авантурнікі ехалі не толькі ў Шклоў, а ў любы значны горад ці мястэчка, дзе былі мецэнаты. Прыязджалі ў горад мецэнаты, займаліся дабрачыннай дзейнасцю, будавалі тэатры, друкарні – а следам з'яўляліся людзі, далёкія ад культуры, з нячыстымі думкамі. Гэтак Шклоў у свой час апанавалі фальшываманетчыкі. І сапраўды, калі імператрыцы Кацярыне II трэба было знайсці нейкага злачынцу, то яна загадвала пашукаць яго ў Шклове.

**– Віншую вас з нядаўна выдадзенай новай кнігай "Ад Скарыны і Фёдарава – у XXI стагоддзе". Вы надпісалі яе мне нязвыкла: "Гаспадару…" А чаму вам "спадар" не падабаецца?**

– Таму што "гаспадар" – гэта наш гістарычны зварот. У Вялікім Княстве ён быў агульнапрынятым. Расійскае "государь" – ад нашага "гаспадара". Пры Іване Жахлівым, калі не памыляюся, пазычанне адбылося. Потым у Расіі "государь" ператварыўся ў "сударя", а ў нас "гаспадар" у "спадара". Гэта проста скалечаныя, абрэзаныя словы.

**– У жніўні вам споўніцца 86, але я кожнага разу застаю вас за пісьмовым сталом. Мемуары пішаце?**

– Да іх ніяк чарга не дойдзе. Раней я па 12–14 гадзін працаваў, нават лежачы пісаў. А цяпер правае вока стала падводзіць. Але яшчэ планую выдаць серыю кніг па гісторыі Астравеччыны – пра таго ж Гашкевіча, пра паэта-святара Казіміра Сваяка… А днямі айцец Уладзіслаў Завальнюк падкінуў дзве свае кнігі для рэдагавання, адна пра тое, як беларуская мова ўваходзіць у каталіцкі касцёл. Ад такой працы адмаўляцца я не маю права. Вось зраблю ўсё гэта і вазьмуся за мемуары.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## З заляцанняў выйшаў пшык, бо нявестай быў мужык

Больш за 30 мужчын пералічылі 54 тысячы рублёў на мабільны тэлефон 24-гадовага беспрацоўнага мінчука, які “ВКонтакте” выдаваў сябе за дзяўчыну. Пасля перапіскі “яна” прасіла грошы на лекі, памінкі блізкага чалавека, за будучы інтым і нават на тое, каб… зрабіць аборт.

Дарослыя людзі і дзеткі
(Асобна, а то і гурбе)
З глыбінь сацыяльнае сеткі
Вывуджваюць штосьці для сябе.
Камусьці патрэбны забавы
(Знаходзяць аддушыну ў тым),
Камусьці найболей цікавы
Салёненькі сайт пра інтым.
Шукаюць партнёраў нярэдка
І для сексуальных уцех
(На жаль, сацыяльная сетка
Штурхае на гэтакі грэх).
Адшукваюць і прайдзісветы
У Сетцы наіўных ахвяр.
Быў злыднем такім жа і гэты –
Пакуль што зусім не адпеты,
Ды ўсё-ткі сапраўдны махляр.
Сябе называў маладзіцай –
Якаясь мадэль акурат.
Прынамсі, яе ягадзіцы
Хлапцам выстаўляў на прагляд,
Паказваў другія вабносці –
У профіль яны і ў анфас.
І хлопцы шалелі ад млосці:
Такая нявеста – якраз.
Працяглай была перапіска –
Парой ад відна да цямна.
“Пара пазнаёміцца блізка, –
Нарэшце пісала “яна”. –
Чакае наперадзе казка –
Я буду вакханкай амаль…
Ды ёсць, мой каханы, няўвязка:
Пакуль што хварэю, на жаль.
Патрэбны мне грошы на лекі,
Дык ты, калі ласка, прышлі.
Я буду тваёю навекі,
Калі атрымаю рублі…”
Падобныя просьбы-звароты
Атрымліваў кожны “жаніх”.
(Узвод або цэлая рота
Набралася ў выніку іх.)
І варта адзначыць: “нявеста”
Знаходзіла многа падстаў,
Каб палкае жарсці заместа
Каханы ёй грошы дасылаў:
То трэба яны на хаўтуры –
Бабуля памерла ці дзед;
То вельмі патрэбны купюры,
Каб ёй аплаціць інтэрнэт;
То ёй неабходна аплата
За будучы іхні інтым…
Ну, словам, рахункаў багата
Даслала самцам маладым.
(Як быццам нячыстая сіла
Натхняла – спакуслівы чорт:
Нахабніца нават прасіла
Падкінуць рублі на аборт.)
Ён грошай нагроб да халеры…
Прабачце, нібы бараны,
Пайшлі ў райаддзел кавалеры,
Калі зразумелі яны:
Не будзе жаданых любошчаў,
З любошчаў у выніку – пшык,
Бо проста мазгі ім палошча
Не дзеўка, а нейкі мужык.
Бядуюць, канешне, ахвяры,
Што ўсё прынялі напавер…
А злыдзень патрапіць на нары,
Бо ўсё-ткі заслужанай кары
Яму не пазбегнуць цяпер.
Няхай пасябруе са шконкай
Нахабны махляр малады,
І, можа, “агульнаю жонкай”
Ён будзе ў турме сапраўды…

* * *

Мужчыны! Не варта каханку
Шукаць праз сляпы інтэрнэт,
Бо можна займець нечаканку.
Харошых дзяўчат і кабет
І побач уволю, дасыта.
Дык будзе надзейней, калі
Дарыцьмеце ім менавіта
Букеты, брыльянты, рублі…

З ПОШТЫ ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА

# «Народная Воля» часцей, чым іншыя выданні, выступае абаронцам мовы беларусаў

Паважаны Іосіф Паўлавіч!

Я і мая жонка Ася Пятроўна адпрацавалі настаўнікамі 79 гадоў (на дваіх), ужо больш дваццаці гадоў як на пенсіі. Сёлета ў кастрычніку адзначым шасцідзесяцігоддзе нашага сумеснага жыцця.

Нягледзячы на сталы ўзрост, з цікавасцю прадаўжаем сачыць за падзеямі ў нашай краіне і за яе межамі. Рабіць гэта нам дапамагае “Народная Воля”, якую мы выпісваем… не магу сказаць дакладна, з якіх часоў. Захоўваецца ў мяне ліст ад Вас, Іосіф Паўлавіч, у якім Вы паведамляеце: “Мы вырашылі змясціць апавяданне “Зладзюга” ў бліжэйшых нумарах нашай газеты…” і сапраўды, праз 10 дзён (16.10.1997) я ўбачыў сваё апавяданне “Зладзюга” ў “Народнай Волі”. Гэта сведчыць пра тое, што ў 1997 годзе мы выпісвалі Вашу газету. Потым былі змешчаны і мае крыжаванкі (08.12.1997, 27.05.2000). А вось вершы, што я зрэдку складаў і працягваю складаць (хаця нават няёмка прызнавацца ў гэтым, бо мне пайшоў 92-гі год жыцця, якія ў такім узросце вершы?!), я не адважыўся пасылаць у вядомую нацыянальную газету як “Народная Воля”. Другая справа – сенненская “раёнка” ці віцебскае “Народнае слова” (газеты з такой назвай у Віцебску сёння ўжо няма). А тут надоечы, калі я з Асяй Пятроўнай вёў размову пра стан роднай мовы, яна параіла: “Пашлі ты калі-небудзь адзін са сваіх вершаў у “Народную Волю”. Мне, напрыклад, падабаецца “Покліч бацькоў”. – “Ды ты што?! “Народнай Волі” з лішкам хапае вершаў масцітых паэтаў-прафесіяналаў”. – “А ты ўсё-такі паспрабуй. Гэта газета, часцей чым іншыя выданні, выступае абаронцам мовы беларусаў”.

Па праўдзе кажучы, не было нам у нашай школьнай рабоце “разгону” для выкарыстання беларускай мовы, бо я выкладаў замежную, а Ася Пятроўна – рускую. Аднак беларускую мову мы лічылі каштоўным скарбам, які пакінулі нам у спадчыну нашы бацькі. Мы абое – вяскоўцы: Ася Пятроўна – з вёскі на Гарадоччыне (Выпуш), што была спалена фашыстамі і не аднавілася, а я – з вёскі на Сенненшчыне (Гарывец), што перажыла вайну, а “скanала” ў нядаўнія часы (як і многія іншыя вёскі ў Беларусі). Лічым сваім абавязкам не забываць мову сваіх бацькоў. Вось пра гэта мой верш, які я Вам дасылаю.

Шчыра жадаем Вам здароўя, даўгалецця і поспехаў ва ўсіх справах!

**Віктар Іванавіч АСТАПЕНКА.**
*г.Сянно.*

Віктар АСТАПЕНКА

## Покліч бацькоў

*Здаецца мне часам – мяне нехта кліча…*
*Дзе спеў салаўіны, дзе клёкат буслоў,*
*Дзе роздум-шаптанне гаёў таямнічых –*
Мне чуецца покліч бацькоў.

Сцяжынкі дзяцінства даўно ўжо не блізка.
К мясцінам тым часта я ў мроях лячу:
Так мову я продкаў маіх над калыскай
У спевах матулі пачуў.

І там жа з каханнем сустрэўся я першым,
І радасці першых спатканняў спазнаў,
Там любай дзяўчыне пяшчотныя вершы
На матчынай мове складаў.

І колькі ўжо вёрст з той пары наматала
На шпульку жыцця – я, бадай, не злічу,
Мясцін незвычайных наведаў нямала
І многа гаворак я чуў.

Калі ж беларускія словы пачую,
Чароўная музыка сэрца кране:
Здаецца, аднекуль, праз далеч сівую,
Гукае матуля мяне.

Трывогу і смутак душа адчувае,
Бо чуе той покліч радзей і радзей…
Няўжо нас спакусіць гаворка чужая,
А МОВА бацькоў прападзе?

## Словы падзякі

Шаноўныя Ася Пятроўна і Віктар Іванавіч!

Дзякуй Вам за такі цёплы ліст. Вашы шчырыя словы – найвышэйшая ўзнагарода для мяне і ўсяго калектыва “Народнай Волі”. Дай Бог, каб такіх адданых Беларушчыне людзей, як Вы, было ў нас як мага болей. Лічым, што верш “Покліч бацькоў” выкліча станоўчы водгук у многіх чытачоў.

Зычым Вам, Ася Пятроўна і Віктар Іванавіч, яшчэ доўгіх гадоў жыцця, якое з’яўляецца ўзорам для маладых пакаленняў!

**Іосіф СЯРЭДЗІЧ.**

ИЗ ПИСЬМА



## Когда в Беларуси средняя зарплата будет, как в Швеции?

Сегодня, как никогда, остро стоит вопрос расходования, распределения бюджетных денег. Давайте посмотрим как расходуются они правительством. Где вы видели, в какой стране, чтобы 50,74 процента бюджета расходовалось на аппарат управления государством, на непроизводственную сферу экономики?

На содержание силового блока на этот год депутаты утвердили 16,3 процента бюджета, а на социальные нужды, на медицину – 4,53%, образование – 4,44, а на социальную политику – 8,9 процента. О каком социальном государстве может идти разговор при таком раскладе госбюджета? В нашем государстве активно процветает бюрократическая модель управления: 50,7 процента бюджета идет на аппарат управления государством. Вот почему в Беларуси высокая инфляция и самые низкие пенсии и зарплаты. Обратите внимание, какие деньги выделяет бюджет Беларуси на социальную политику – 8,98 процента, а Скандинавские страны на эти цели выделяют – 70 процентов. Например, в Швеции средняя зарплата составляет 3500 евро, в Беларуси – 390 евро, пенсия у них – 900 евро, в Беларуси – 144, помощь безработным – 400 евро, белорусам – 11,4 евро. Вот вам наглядная картина социальной политики власти.

**Александр ЗАРЕНОК, экономист.**
*г.Калинковичи.*

БЫЛО...

# Артыкул у юбілейны нумар, або Спрэчка з міністрам

Пэўны час міністрам замежных спраў Беларускай ССР быў Анатоль Емяльянавіч Гурыновіч. Яго паважалі ў калектыве і паміж сабою дыпламаты называлі проста “Гура”. Высокі і сімпатычны мужчына з ледзь прыглушаным голасам, ён, хоць і быў афіцыйнай асобай, меў тонкае пачуццё гумару. Калі на сесіі Генеральнай Асамблеі ААН беларуская дэлегацыя давала прыём, дзе звычайна частавала гасцей – прадстаўнікоў амлаь 150 краін планеты – белавежскай гарэлкай і белымі грыбамі-баравічкамі і, вядома ж, іншымі прысмакамі нашай нацыянальнай кухні, Гура жартам даваў наказ падначаленым: “Прасачыце, каб на сталах стаяў хрэн. Каб госці пасля не сказалі, што на стале ні хрэна не было”.

І ўсё ж Гурыновіч быў вельмі асцярожным міністрам і дыпламатам. Ён, як кажуць, не высоўваўся, не лез паперад “бацькі”, якім у той час быў наш зямляк міністр замежных спраў СССР Андрэй Грамыка, і строга сачыў за тым, каб не дапусціць пракол у рабоце свайго, беларускага, міністэрства. Я ў гэтым перакanаўся на ўласным вопыце.

Кожны год пасля сесіі Генеральнай асамблеі ААН мне як загадчыку міжнароднага аддзела рэдакцыі газеты “Звязда” даручалася рыхтаваць да друку артыкул А.Гурыновіча (перакладаць з рускай мовы на беларускую і рабіць яго больш чытабельным). Я заўсёды сутыкаўся з адным і тым жа: з тэкста міністра нельга было зразумець, чым жа тры месяцы (тэрмін пасяджэнняў сесіі) у Нью-Ёрку займалася наша дэлегацыя дыпламатаў, якую істотную прапанову яна ўнесла на разгляд вялікага форуму і які вынік абмеркавання? Такія артыкулы міністра займалі палову газетнай старонкі, але ўсё ў іх было нібы ў тумане. Звычайны чытач да сутнасці не мог дакапацца, колькі б ён ні сіліўся.

Аднойчы я вырашыў “ажывіць” артыкул міністра. Было гэта ў юбілейным годзе (1972) з дня ўтварэння СССР. Рэдкалегія “Звязды” зацвердзіла маю прапанову, каб Гурыновіч выступіў з артыкулам, прысвечаным юбілею, паклаўшы ў аснову тэмы радок з верша Янкі Купалы: “Занімай, Беларусь маладая мая, свой пачэсны пасад між народамі”. На гэты раз артыкул заказваў Гурыновічу сам галоўны рэдактар Міхаіл Іванавіч Дзялец. І калі мне на стол паклаў матэрыял памочнік міністра, мой добры сябра Міхаіл Калошын, я заўважыў, што артыкул не мае загалоўка. На маё пытанне, чаму так, Калошын адказаў коратка: “А хіба ты не ведаеш, што начальства не любіць ламаць галаву над нейкімі мудрагелістымі загалоўкамі? Яно гэта пакідае вам, журналістам”.

Мне ж таксама ламаць галаву на гэты раз не давялося, бо радок з верша Янкі Купалы быў зацверджаны галоўным рэдактарам, і таму я яго акуратна вывеў у загаловак артыкула Гурыновіча. А пасля, калі стаў рыхтаваць матэрыял да друку, мяне здзівіла яшчэ адна акалічнасць: у артыкуле не было той самай важнай і канкрэтнай беларускай прапановы, якая была прынята Генасамблеяй ААН. Гаворка ішла аб тым, каб судзіць фашысцкіх ваенных злачынцаў у тых краінах, дзе яны ўчынілі свае злачынствы, і без тэрміну даўнасці.

Крыху паразважаўшы, я зразумеў, чаму міністр абмінуў гэты, бадай, самы важны тэзіс, прыняты ААН па прапанове беларускай дэлегацыі. Ды таму, што гэта было яшчэ пры міністры Кузьме Кісялёве, які ўзначальваў МЗС Беларускай ССР да Гурыновіча. Таму, каб не аддаваць лаўры свайму папярэдніку, лепш гэты факт проста абысці маўчаннем.

Пры гэтым трэба адзначыць, што ў гады “халоднай вайны” ў нашых дыпламатаў работы на ідэалагічным фронце змагання супраць імперыялістаў розных рангаў было, як кажуць, вышэй галавы. Дзень праз дзень высмоктвалі з пальца так званыя “адлупы” з прычыны то ўдушэння “Пражскай вясны”, то рэпрэсавання польскай “Салідарнасці”, то з той нагоды, што ўвод савецкіх вайсковых фарміраванняў у Афганістан мае выратавальную місію для вялікага рэгіёна…

Але вернемся да артыкула Гурыновіча. Калі ён быў падрыхтаваны да друку з упісаным мною тэзісам наконт суда над фашысцкімі ваеннымі злачынцамі і загалоўкам, узятым з верша Янкі Купалы, я прывёз яго ў МЗС на візу Анатоля Гурыновіча. Той доўга і моўчкі яго чытаў. І чым далей паглыбляўся ў тэкст, тым ад таго прыветлівага настрою, з якім ён сустрэў мяне, на яго твары, увогуле прыгожым і гладка паголеным, не засталося і следу. Я адчуваў, што ён незадаволены канчатковым варыянтам артыкула. І здагадаўся, у чым прычына: у тэзісе Кузьмы Кісялёва, які я ўставіў самастойна, без узгаднення з ім. Аднак сказаць мне, каб я яго сам і выкрасліў, ён не рашаўся, бо было б вельмі дзіўна і падазрона: чаму ў такім выніковым артыкуле, апублікаваным у святочным нумары, не згаданы найважнейшы поспех усёй беларускай дыпламатыі?

Толькі неяк ціха і дыпламатычна Гурыновіч зрабіў мне заўвагу, што, маўляў, гэты тэзіс мы і так вельмі часта асвятлялі ў друку, і таму ён вырашыў тут абысціся без прапановы Кузьмы Кісялёва. Пры гэтым імя яго папярэдніка “Кузьма” было вымаўлена Гурыновічам з адценнем пагарды і ў расцяжку. Я не ведаў, якія былі адносіны ў Гурыновіча з яго былым шэфам, але ўжо гэта адна фраза сведчыла аб тым, што не вельмі прыязныя. Увогуле іншымі яны не маглі быць, бо калі ўлічыць той вялікі тэрмін, які Кузьма Кісялёў сядзеў у міністэрскім крэсле, што нават даслужыўся да пасады дуаена Генасамблеі, дык можна ўявіць, колькі гадоў малады дыпламат Гурыновіч, будучы яго намеснікам, чакаў міністэрскай пасады.

На гэту заўвагу Гурыновіча я з затрымкай запярэчыў: “Але ж, Анатоль Емяльянавіч, гэты артыкул не звычайны, а для юбілейнага нумара газеты – паўвека з дня стварэння вялікага Саюза, таму тут усе дасягненні павінны быць улічаны”. Міністр прамаўчаў, але стаў доўга задумвацца ўжо паўторна над загалоўкам артыкула. І тут нечакана ўстаў, падышоў да шафы, узяў атуль том слоўніка рускай мовы Даля, вярнуўся ў сваё крэсла і пачаў там шукаць нейкае слова. Я моўчкі назіраў за яго дзеяннямі. Ён таксама моўчкі гартаў старонкі слоўніка. Нарэшце спыніў свій пошук і стаў уголас чытаць тлумачэнне Даля слова “пасад” – “место за городской чертой, где сидели купцы и ремесленники”. “А мы на сесіі Генасамблеі сядзім разам з усімі дэлегацыямі, а не за нейкай там “чертой” – ужо задаволены сабою (хоць тут ён адыграўся) прамовіў Гурыновіч. Мне не заставалася нічога, як абараняць паэтычны радок Янкі Купалы, у якім слова “пасад” мела зусім іншы сэнс, не купецкі і не рамесніцкі, а аднолькавае месца сярод іншых народаў. Да таго ж перад словам “пасад” стаіць слова “пачэсны”.

Гурыновіч настойваў на сваім, маўляў, Янка Купала – паэт, ён мог гаварыць і пісаць усё, што яму прыйдзе ў галаву, а ў нас, у дыпламатаў, усё павінна адпавядаць канкрэтнаму сэнсу, каб не было ніякіх крыватолкаў.

Я адчуў, што далей працягваць спрэчку з міністрам было б залішне з майго боку, таму на развітанне паабяцаў, што яго думку наконт загалоўка я данясу да рэдактара.

Так і зрабіў, на што Міхаіл Іванавіч Дзялец, вопытны чалавек, з усмешкай прамовіў: “Міністр што, не любіць паэзію Янкі Купалы?”

Артыкул Гурыновіча так і быў апублікаваны ў “Звяздзе” пад загалоўкам са словамі з верша вялікага песняра.

**Вячаслаў ВОЛЬСКІ.**

ПЫТАННЕ–АДКАЗ

## Дзе можна здаць зношаныя аўташыны?

*“У мяне ўжо трэцяя машына. Гараж завалены зношанымі шынамі. Дзе можна іх здаць і атрымаць нейкія грошы?”*

**Васіль КУРБАЦКІ, Мінск.**

Для эколагаў зношаныя шыны і на самай справе – праблема. Па некаторых звестках, зараз у Беларусі налічваецца каля 65 тысяч тон такога “дабра”. Спальванне іх альбо захаванне вельмі негатыўна ўплывае на экалогію, бо газы, якія пры гэтым утвараюцца, могуць паслужыць прычынай развіцця анкалагічных захворванняў.

Таму, калі для некага зношаныя шыны сталі праблемай, то іх можна здаць. Напрыклад, на некаторых пунктах шынамантажу шыны прымаюць за 2 рублі за кола. Але пры ўмове, што вы ў іх правядзеце шынамантажныя работы.

У Мінску старыя колы таксама можна здаць у ААТ “Белпрамтара” (вуліца Бабушкіна, 22), якая прымае іх для далейшай утылізацыі. Арганізацыя прымае шыны па цане 200 рублёў за тону.



РУБАМ!

## Няўжо мы такія багатыя…

Я жыву ў цэнтры Мінска. Наш дом – яшчэ даваеннай пабудовы. Даўно пара ставіць на капітальны рамонт. Але ўлады кажуць: пачакайце, да вас пакуль не дайшла чарга. Пры гэтым тлумачаць, што не хапае грошай на тое, каб прывесці ў парадак старое жыллё.

У той жа час я амаль на кожным кроку бачу, як у нас марнуюцца дзяржаўныя сродкі. Возьмем тую ж Ульянаўскую вуліцу, якая пераходзіць у Першамайскую. На маёй памяці праезная частка падвяргалася рэканструкцыі разоў пяць, а можа, і болей. То перакопваюць з-за пракладкі падземных камунікацый, то мяняюць шпалы на трамвайных пуцях, то пераносяць прыпынкі, то пашыраюць… Вось і сёлета ўжо каторы месяц і па Ульянаўскай, і па Першамайскай не ходзяць трамваі. Аўтобусы таксама не курсіруюць, для легкавога і грузавога транспарту адкрыты толькі невялічкія ўчасткі.

Некалькі гадоў таму давялося пабываць у Мюнхене. Разгаварыўся з адным старым немцам. Дык ён сказаў: “З пасляваенных часоў на нашай вуліцы я ні разу не бачыў экскаватара”. Калі аднаўлялі горад, усё было прадумана і зроблена так, каб дзесяцігоддзямі нічога не перарабляць”. А ў нас? Не паспеюць пакласці новы асфальт, як, аказваецца, трэба рыць траншэі, каб выправіць каналізацыю. Толькі гэта зрабілі, як з’явілася неабходнасць мяняць водаправодныя трубы…

Ужо прыкладна тыдні тры не прайсці па тратуары ля ўпраўлення Беларускай чыгункі і Нацыянальнага банка. Кладуць новую плітку. А што са старой? Сцёрлася, размокла? Ды не, здаецца, мела нармальны выгляд. Але ж ведаеце, што Мінск рыхтуецца да Еўразійскіх гульняў. І цэнтр сталіцы трэба вылізаць так, каб замежныя турысты ахнулі: такой прыгажосці, такой чысціні ў іх краінах няма. Хочам паказухай абманіць гасцей. Яны ж не сляпыя, пройдуцца не толькі па цэнтры нашай сталіцы, але многія з іх зазірнуць і ў мікрараёны з “хрушчоўкамі” і абшарпанымі пад’ездамі дамоў. А ці ж можа радаваць прыватная забудова пасляваенных часоў, скажам, па вуліцы Арлоўскай ці ў той жа Сляпянцы?

Так што не трэба нам вылізваць тэрыторыю вакол таго ж Нацбанка. Што, з’явіліся лішнія грошы? Ды ці не лепей было б аддаць іх на рамонт такіх дамоў, як наш? Альбо на прывядзенне ў парадак тых вуліц, на якіх, як кажуць, чорт нагу зламае.

Не, не такія мы ўжо багатыя, каб не даражыць кожным рублём, кожнай капейкай.

**Анатолій Іванавіч КУХАЛЬСКІ, карэнны мінчанін.**

ВЕРНІСАЖ

# Аксана ШАЛЯПІНА: «У мяне мальберт у двух метрах ад ложка...»

*З жніўня ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь адбудзецца адкрыццё выставы “Адлюстраванне колеру” беларускай мастачкі Аксаны Шаляпінай.*

*Мастачка вядомая тым, што піша свае карціны нестандартным спосабам – не пэндзлем, а пальцамі!*





На экспазіцыі будзе прадстаўлена больш за 20 жывапісных работ, створаных на працягу апошніх сямі гадоў. Абстрактна-рэалістычныя работы выкананы ў стылі экспрэсіянізму.

Аксана Шаляпіна нарадзілася ў Мінску ў 1977 годзе. Скончыла мастацкую школу, архітэктурны факультэт БДПА. Яна – паспяховы дызайнер інтэр’еру. Але апошнія 10 гадоў Аксана сур’ёзна займаецца жывапісам.

«*Я спачатку стварала карціны менавіта для інтэр’ераў заказчыкаў*, – распавяла Аксана “Народнай Волі”. – *А атрымалася, што гэта стала асобным напрамкам маёй творчасці*».

Аксана выхоўвае дзвюх дачок, сама займаецца хатняй гаспадаркай. Як хапае часу на маляванне?

«*Шчыра кажучы, ніколі пра гэта не думала*, – паціскае плячыма яна. – *Гэта як частка жыцця. У мяне мальберт у двух метрах ад ложка. Прачнуўся і малюй! Да таго ж мне падабаецца тое, чым я займаюся. А на любімую справу час заўсёды знаходзіцца*».

Карціны Аксаны вельмі запамінальныя і эмацыянальныя, яркія.

«*Колер напаўняе наша жыццё*, – тлумачыць Аксана. – *І змяняе не толькі настрой, але і дапамагае спазнаць сябе. Колеры стымулююць пачуцці, расслабляюць цела, абуджаюць успаміны і нават прымушаюць улюбляцца... А колеры жыцця – яны ж розныя. І кожны выбірае свой*”.

Чаму мастачка піша не пэндзлямі, а пальцамі?

«*Я люблю, калі ярка*, – тлумачыць Аксана. – *А алей – складаны матэрыял, пасля іншага колеру трэба доўга мыць пэндзаль, інакш атрымаецца брудны колер. А я не люблю доўга. Я люблю адразу. А пальцаў – 10, на кожны палец – свой колер, гэта вельмі зручна!*»

Работы мастачкі добра прадаюцца і знаходзяцца ў прыватных калекцыях у розных краінах свету.

Выстава Аксаны Шаляпінай будзе працаваць да канца жніўня. Не прапусціце!

**Марына КОКТЫШ.**

МАЗАІКА

## Сарока – у Бельгіі



*26-гадовы нападаючы футбольнага мінскага «Дынама» і зборнай Беларусі Антон Сарока падпісаў кантракт з бельгійскім клубам «Локерэн».*

Пагадненне разлічана на тры гады. У 2012–2016 гадах ён гуляў за «Гарадзею», адкуль перайшоў у мінскае «Дынама».

## Ці дапаможа Азаранка зборнай Беларусі?

*Жаночая каманда рыхтуецца да чарговага матча Кубка федэрацыі.*



Нягледзячы на тое, што матч 1/4 фіналу адбудзецца толькі 9–10 лютага, кіраўніцтва каманды ўжо зараз вядзе падрыхтоўку да яго.

Як паведаміла капітан зборнай Таццяна Пучак, гаварыць пра ўдзел Вікторыі Азаранка ў матчы супраць каманды Германіі яшчэ рана.

На пачатку будучага года вядучыя беларускія тэнісісткі правядуць некалькі турніраў, у прыватнасці адкрыты чэмпіянат Аўстраліі, пасля чаго пройдзе трэніровачны збор у Мінску, а затым каманда адправіцца ў Германію на матч Кубка Федэрацыі.

Нагадаем, што ў лютым 2018 года таксама на стадыі 1/4 фіналу каманднага чэмпіянату планеты зборныя Беларусі і Германіі сустракаліся ў Мінску, тады поспех быў на баку нямецкіх тэнісістак – 3:2.

## «Цмокі» запрасілі амерыканца

*Амерыканскі разыгрываючы Дарын Гавен папоўніў склад баскетбольнага клуба «Цмокі-Мінск”.*




Сваю гульнявую кар’еру Дарын Гавен пачаў у камандзе ўніверсітэта Сент-Джазэф, у якой правёў 4 сезоны, у 2010 годзе перайшоў у амерыканскі клуб «Рына Бігхорнс». Затым перабраўся ў Еўропу і выступаў у клубах Ісландыі, Грэцыі і Венгрыі. У мінулым сезоне 30-гадовы амерыканскі баскетбаліст гуляў за “Фалка Вулкана”, у якім быў сапраўдным лідарам – у яго актыве па 19,8 ачка ў сярэднім за матч. Нядаўна Дарын Гавен атрымаў венгерскае грамадзянства і выступае ў нацыянальнай зборнай.

Таксама з мінскім клубам падпісаў кантракт амерыканскі баскетбаліст Стэфан Мудзі, які апошнім часам выступаў за грэчаскі клуб “Рэцімна”.

**Віктар ШПАК.**

ВЕДАЙ НАШЫХ!

# Гісторыя поспеху Віктара Ганчарэнкі

*У мінулую нядзелю беларускі футбольны спецыяліст яшчэ раз пацвердзіў свой клас. У Расіі.*

Маскоўскі ЦСКА, галоўным трэнерам якога і з’яўляецца Ганчарэнка, выйграў Суперкубак Расіі, перамогшы маскоўскі “Лакаматыў” (у дадатковы час – 1:0). Варта адзначыць, што падчас міжсезоння армейцы панеслі вялікія страты, каманду пакінулі 7 футбалістаў асноўнага складу. І тут, безумоўна, на першы план выйшаў трэнер-стратэг Ганчарэнка, які даказаў, што выйграваць можна і малымі сіламі.

Дарэчы, у гэтым годзе беларускі трэнер прадоўжыў кантракт з маскоўскім ЦСКА на два гады, новае пагадненне разлічана да канца сезона-2019/2020. Як вядома, Ганчарэнка ўзначаліў гэтую каманду ў снежні 2016 года, пад яго кіраўніцтвам армейцы два разы запар занялі другое месца ў чэмпіянаце Расіі і дайшлі да 1/4 фіналу Лігі Еўропы. Як сцвярджае маскоўскі клуб, беларускі спецыяліст з’яўляецца адным з лепшых трэнераў у гісторыі ЦСКА па працэнтах перамог – 57,14 працэнта.

Нагадаем, што 41-гадовы **Віктар Ганчарэнка** родам з Хойнікаў Гомельскай вобласці. У свой час гуляў на пазіцыі абаронцы ў шэрагу беларускіх клубаў (найбольш – у складзе барысаўскага БАТЭ), за маладзёжныя зборныя Беларусі.

Завяршыў Ганчарэнка кар’еру іграка вельмі рана – у 25 гадоў. Траўма, якую атрымаў хлопец, не дазваляла працягваць гуляць у футбол, таму давялося перакваліфікавацца ў трэнеры. У 2004–2006 гадах Віктар трэніраваў каманду дублёраў БАТЭ, у 2007-м стаў галоўным трэнэрам асноўнай каманды. Ва ўсіх сезонах пры гэтым трэнеры (6 разоў!) БАТЭ станавіўся чэмпіёнам Беларусі, аднойчы ўзяў Кубак Беларусі, тройчы выходзіў у групавыя этапы Лігі чэмпіёнаў. Незабыўныя перамогі над нямецкай “Баварыяй” і французскім “Лілем” – гэта ўсё было пры Ганчарэнку, які шэсць разоў прызнаваўся лепшым трэнерам Беларусі!

Ён неаднойчы казаў, што хацеў бы расці ў трэнерскім майстэрстве, хацеў бы паспрабаваць сябе ў замежным клубе, хаця да пэўнага часу заставаўся верным барысаўскаму БАТЭ. І ў 2013 годзе Ганчарэнка вырашыў з’ехаць з Беларусі, калі прыняў прапанову ўзначаліць краснадарскую “Кубань”.

Дэбют трэнерскай працы ў расійскім клубе быў даволі паспяховым, каманда ўдзельнічала у групавым раўндзе Лігі Еўропы ў сезоне 2013/14. А вось наступны сезон «Кубань» пачала з дзевяціматчавай серыі без паражэнняў, каманда ішла на 5-м месцы ў Прэм’ер-лізе, але кантракт краснадарскага клуба з Ганчарэнкам быў нечакана разарваны. Зрэшты, нікога гэта асабліва не здзівіла, бо ўласнікі “Кубані” і раней мянялі трэнераў, як пальчаткі.

Пасля «Кубані» Ганчарэнка на працягу сямі месяцаў заставаўся без працы, і беларускія балельшчыкі спадзяваліся, што, магчыма, менавіта ён – найбольш рэальны прэтэндэнт на пасаду галоўнага трэнера нацыянальнай зборнай. Не атрымалася. Альбо Федэрацыя Беларусі не змагла зацікавіць талковага спецыяліста прывабнай прапановай, альбо сам Ганчарэнка не захацеў ізноў вяртацца ў Беларусь. У выніку Віктар Міхайлавіч атрымаў пасаду “галоўнага”



ў екацярынбургскім “Урале”, хаця і там узаемная любоў была нядоўгай. Пасля шасці праведзеных матчаў у Прэм’ер-лізе Ганчарэнка пакінуў Екацярынбург перад матчам з грозненскім “Цеpакам”. Па чутках, “Урал” павінен быў паўдзельнічаць у дамоўленым матчы, але беларускі трэнер вырашыў, што гонар і прафесійная годнасць каштуюць значна даражэй.

А ў 2016 годзе Віктар Ганчарэнка пачаў працаваць у ЦСКА…

“*Гэты клуб прадстаўляць не трэба, а расійскі чэмпіянат дастаткова моцны*, – казаў затым Віктар Міхайлавіч. – *Безумоўна, гэта выклік для мяне, інакш нельга і назваць. Больш за тое, магу сказаць, што са свайго боку вельмі задаволены тым, як развіваецца мая кар’ера. Праца ў барысаўскім БАТЭ – гэта пазіцыйныя атакі і атакуючы футбол, гульня толькі на перамогу. Затым былі “Кубань”, “Урал” і “Уфа”, якія не мелі чэмпіёнскіх амбіцый. Але гэта быў своеасаблівы вопыт для таго, каб зразумець, што адбываецца ў галовах футбалістаў, якія не змагаюцца за вядучыя месцы. Я задаволены гэтым вопытам. Адна справа – калі ты знаходзішся пад ціскам і ведаеш, што трэба кожны матч выйграваць. Іншая справа – калі працуеш з камандай, у якой задача не выляцець з Прэм’ер-лігі. Такая камбінацыя дапамагае трэнеру знаходзіць новыя ідэі, развівацца і не стаяць на месцы*”.

У Віктара Ганчарэнкі ёсць вельмі добрая падтрымка “з тылу” – сын і жонка Маргарыта. Хаця сама яна неяк прызналася, што нават дома муж думае пра футбол.

“*Калі Віця прыходзіць дадому, то вядзе сябе ціха і пастаянна заняты нейкімі думкамі пра трэніровачны працэс*, – распавяла яна. – *Неяк нам удалося выбрацца ў госці, дык я сказала мужу: “Сядзь насупраць, а то хутка зусім забуду, як ты выглядаеш”*.

Дарэчы, у складзе трэнерскага штаба ЦСКА працуе і яшчэ адзін былы галоўны трэнер барысаўскага БАТЭ Аляксандр Ермаковіч. Можна, безумоўна, парадавацца за поспехі нашых суайчыннікаў, але засмучае іншае – развіваюць яны не беларускі, а замежны футбол.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

КРЫЖАВАНКА

## «Беларусь мая спеўная, летняя, жніўная». Прысвячаецца жніву



**Па гарызанталі:** 3. “Пашлі, Божа, многа …”. З карагоднай зажынкавай песні. 8. … рукам, што пахнуць хлебам! (прык.). 10. Будзе зямлі … – будзе хлеб і каўбаска(прык.). 11. “Жніце, жнейкі маладыя,\\У вас … залатыя”. З беларускай народнай песні “А ў нас сёння зажыначкі. 14. Прадмет, на які накіравана чыя-небудзь дзейнасць. 15. Вяртай зямлі доўг – будзе …(прык.). 16. Павышаная нервовая ўзбуджанасць. 17. Упусціш … – згубіш ураджай(прык.). 18. Тое, што і пласцінка. 19. Ідзі ў родны …, там і пад ёлкаю рай(прык.). 20. Участак зямлі, засаджаны дрэвамі, кустамі, кветкамі. 22. Напоўнены паветрам празрысты шарык у вадкасці. 24. “Рада, рада наша гаспадыня,\\Што … дажала, рада, рада”. З беларускай народнай песні “Рада перапёлка”. 26. Тое, што і ласо. 27. “… мая спеўная, летняя, жніўная,\\Палавеюць загоны густой ярыной”. З верша Л.Геніюш “Беларусь”. 28. Знак прыпынку. 30. Высокая стаячая люстра. 32. Добры чалавек(разм.).

**Па вертыкалі:** 1. Ноша, якую можна панесці, абхапіўшы рукамі. 2. Старажытнаегіпецкі бог Сонца. 4. Мінерал. 5. Самаробная электрычная пробка(разм.). 6. Вялікі майстар сваёй справы. 7. “І панёсся на прыволлі\\Жнейчын звонкі …”. З верша Я.Коласа “Жніўныя песні”. 9. … ды лебяда – для палетку бяда(прык.). 10. “Зближаецца лета к адхону,-\\Дзе-недзе зляцеў … чырвоны”. З верша Я.Купалы “Сяўцу”. 12. Сей хоць у …, а ўбірай у добрае надвор’е(прык.). 13. Тое, што і арэлі. 19. Што снапочак – то …,што … – то й вазочак(прык.). 21. “Ляжа сноп у …,\\Стане мэтлік, кружок”. З верша Я.Купалы “Зажынкі”. 23. На бязрыб’і і рак …(прык.). 24. Тое, што і жыла. 25. Футравая абшыўка па краях адзення, абутку. 26. Нізкі жаночы або дзіцячы голас. 29. Нота музычнай гамы. 31. …! Слова, якое выражае розныя моцныя пачуцці.

**Лявон ЦЕЛЕШ.**

*г.Дзяржынск.*

АДКАЗЫ

**Па гарызанталі:** 3. Збожжа. 8. Хвала. 10. Ласка. 11. Сярпочкі. 14. Аб’ект. 15. Толк. 16. Транс. 17. Час. 18. Дыск. 19. Край. 20. Сад. 22. Пузыр. 24. Жыта. 26. Аркан. 27. Беларусь. 28. Коска. 30. Трумо. 32. Дабрак. **Па вертыкалі:** 1. Ахапак. 2. Ра. 4. Барыт. 5. Жучок. 6. Ас. 7. Галасок. 9. Асот. 10. Ліст. 12. Непагадзь. 13. Калыханка. 19. Копачка. 21. Снапок. 23. Рыба. 24. Жылка. 25. Апуха. 26. Альт. 29. Сі. 31. Ух!

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



9 772071 964000 18060

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 30.07.2018 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 535 экз. Заказ № 2609.